# ПАГОНЯ

Аўторак
13 ліпеня1999 г.
№ 43 (420)
Кошт 25.000 руб.


## Візіт германскага амбасадара

**Гэтымі днямі праходзіць візіт у Гродна амбасадара Германіі ў Беларусі Хорста Вінкельмана.**

Нямецкі амбасадар прыехаў у Гродна раніцай у панядзелак і пачаў праграму свайго візіту з сустрэчы з кіраўніцтвам аблвыканкама. У гэты ж дзень ён правёў экскурсію па гораду і наведаў сельгаспрадпрыемства «Азёры». Увечары таго ж дня адбылася сустрэча з грамадскасцю горада ў польскім консуляце. У ёй, паводле звестак ПАГОНІ, браў удзел таксама і польскі амбасадар спадар Марыюш Машкевіч.

Сёння Хорст Вінкельман наведае Стары і Новы Замкі, дзе месціцца гісторыка-археалагічны музей, і сустрэнецца з прадстаўнікамі Цэнтра нямецкай культуры Гродна.

**Алена Сіневіч**

## Толькі вышэйшай кваліфікацыі!

**У Гродне створаны каардынацыйны савет па падрыхтоўцы спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі, які ўзначаліў першы прарэктар Гарадзенскага дзяржуніверсітэта Іван Мартынаў.**

Асноўнай яго задачай з'яўляецца вызначэнне патрэбаў рэгіёна ў канкрэтных спецыялістах вышэйшай кваліфікацыі і задач, якія яны будуць выконваць. У склад савета ўвайшлі рэктар абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых кадраў і спецыялістаў, начальнікі ўпраўленняў адукацыі, грамадска-палітычнай інфармацыі і друку, арганізацыйна-кадравай працы, намеснік старшыні камітэта па эканоміцы і рыначных адносінах і загадчык аддзелу прамысловасці, транспарту і сферы паслуг. Гэта значыць, людзі, якія вызначаюць кадравую палітыку ў сваіх галінах дзейнасці.

На пасяджэннях савета будуць разглядацца пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай кадраў для розных галін народнай гаспадаркі, планы набору ў аспірантуру і магістратуру універсітэта. Так, на першым пасяджэнні ў верасні—кастрычніку плануецца разгледзець пытанне наконт патрэбы ў кадрах вышэйшай кваліфікацыі ў сістэме адукацыі.

Варта адзначыць, што сёння Гарадзенскі дзяржуніверсітэт мае неабходную базу для падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі: у ВНУ адкрыта падрыхтоўка аспірантаў па 34-х і магістраў — па 21 спецыяльнасцях.

**Ася Куніцкая**

## Кінолагі сабраліся ў Смаргоні

**9-10 ліпеня ў Смаргоні, на базе школы па падрыхтоўцы інструктараў службы сабак памежных войскаў Беларусі, адбыўся двухдзённы семінар-практыкум кінолагаў-спарцменаў.**

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржкамітэта памежных войскаў, удзел у семінары ўзялі больш за 40 прадстаўнікоў кіналагічных клубаў краіны, а таксама спецыялісты з сілавых структур. Прыехалі таксама калегі з Федэрацыі комплекснага і прыкладнога кіналагічнага спорту Расіі.

Ініцыятарам правядзення падобнага мерапрыемства стаў Дзяржаўны камітэт па справах моладзі Беларусі, Беларускі клуб «Заалідар» і Дзяржкамітэт памежных войскаў краіны.

На думку начальніка службы сабак памежнага ведамства палкоўніка Юрыя Дарашэнкі, неабходнасць сабраць разам прафесіяналаў-кінолагаў, абмеркаваць існуючыя праблемы і стварыць сваю Федэрацыю наспявала даўно. Гэтаму, а таксама ваенна-патрыятычнаму выхаванню моладзі, і садзейнічаў праведзены ў Смаргоні семінар.

**Ул. Інф.**

### НАДВОР'Е

Тэмпература паветра па вобласці:

**13 ліпеня** - невялікая воблачнасць, без ападкаў, вецер слабы, уначы +12...+17, удзень +26...+31.

**14 ліпеня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўднёвы 4-9 м/с, уначы +15...+20, удзень +28...+33.



На мінулым тыдні рэдакцыю нашай газеты наведаў даўні сябра ПАГОНІ дацэнт Тэхаскага універсітэту Курт Вулхайзэр. Інтэрв`ю з гэтым цікавым чалавекам чытайце на стар. 3

Фота Ів. Явара

## Дваццаць з паловай тысяч дзяцей мы пасадзілі. У асноўным у садках

**Рэальна рэформа школы тычыцца шасцігодак і выпускнікоў базавай школы. Як заявіў на прэс-канферэнцыі ў мінулы чацвер старшыня аддзела адукацыі аблвыканкама Уладзімір Гаўрон, «сёлета мы пасадзілі 20,5 тысячы дзяцей». Гэта значыць, што 20,5 тысячы шасцігодак па вобласці сёлета пойдуць у падрыхтоўчыя класы.**

Палова выпускнікоў 10 класа, здаўшы экзамены за базавы курс, развітваюцца са школай і ідуць ў ПТВ і тэхнікумы.

Рэформа школы пачалася тры гады таму і мела на мэце падзел адукацыі на сярэднюю і вышэйшую ступень. Па ідэі, слабейшыя павінны былі скончыць 10 класаў і ісці ў спецыяльныя вучылішчы ці на працу. «Выдатнікам» прапаноўвалася працягваць вучобу ў выпускных класах яшчэ два гады, каб потым паступаць у ВНУ. Пры гэтым вышэйшая ступень школы прыроўніваецца да ліцэяў. Аднак атрымалася ўсё наадварот. Адпаведна словам начальніка аддзела адукацыі аблвыканкама Уладзіміра Гаўрона, «лепшыя дзеці цяпер ідуць у сістэму прафтэхнавучання».

На прэс-канферэнцыі ў мінулы чацвер высветлілася, што рэформа школы пакуль што звязана з размазваннем 10-гадовай праграмы на 12 гадоў. Навукоўцы б'юцца насмерць, не жадаючы скарачаць школьныя гадзіны ні па матэматыцы, ні па фізіцы, ні па мовах, ні па іншых прадметах. У такой сітуацыі дзеці прыстасоўваюцца да нававўводзінаў па-свойму. Не жадаючы расцягваць «светлыя школьныя гады» да свайго паўналецця, яны выбіраюць спецыяльную адукацыю, каб раней атрымаць прафесію, а з ёю і якуюнебудзь самастойнасць. Па гэтай прычыне конкурс у добрыя вучылішчы, напрыклад, будаўнікоў, рамонтнікаў, амаль зраўняўся з конкурсамі ў ВНУ і стаў па 4-5 чалавек на месца.

Аднак гэтым рэфармаванне беларускай школы не абмяжуецца. Спадар Гаўрон лічыць, што «галоўная задача рэформы - захаваць усё добрае, што было ў савецкай школе. Савецкая школа - добрая школа. Такі аб'ём ведаў дазваляў паступіць у любую ВНУ. Разам з тым, трэба будаваць нацыянальную школу, дадаць нацыянальнага каларыту».

Згодна з праграмай рэфармавання, для шасцігодак ствараны падрыхтоўчыя класы. У гарадах свой першы школьны год дзеткі праводзяць у садках. На вёсцы часцей у школе. Што, без сумневу, стане для дзяцей сур'ёзным выпрабаваннем. Шмат хто з іх яшчэ не гатовы псіхалагічна да школы, тым больш, што давядзецца развітацца з утульным дзіцячым садком і сесці за парту.

У Гарадзенскай вобласці працуюць дзве эксперыментальныя пляцоўкі -СШ N24 г.Гродна і Краснасельская школа. Тут з пятага класа ўведзена новая, расцягнутая на год, праграма. Дзеці займаюцца пяць дзён у тыдзень. У дзень бывае не болей за 5-6 урокаў.

З першага верасня ў некаторых школах плануецца эксперымент - пераход на новую сістэму адзнак. Хутчэй за ўсё, гэта будзе 10-бальная сістэма.

Адна з умоваў поспеху рэформы адукацыі - стварэнне нацыянальнай школы. Аднак адказу на пытанне, што такое славуты «нацыянальны каларыт», на прэс-канферэнцыі не прагучала. Па вобласці на беларускай мове навучаецца 51 працэнт дзяцей, што складае каля 100 тысяч чалавек. Гэта самы вялікі ў рэспубліцы паказчык. У Гродне працуе адна беларуская школа - СШ N26. Па ўсім відаць, на бліжэйшы час не будуць адкрывацца ні беларускія класы, ні беларускія школы. Спадар Гаўрон сцвярджае, што для гэтага няма падставаў, бо бацькі самі не жадаюць аддаваць дзяцей у беларускія класы. Таму «школы ці класы па 3-5 чалавек адкрывацца не будуць».

Першага верасня на Гарадзеншчыне ў школу пойдзе 188 тысяч дзяцей. Аднак за бліжэйшыя некалькі гадоў іх колькасць паменее на 40 працэнтаў у сувязі з «дэмаграфічнай дзіркай».

У мінулым годзе на рэформу школы было выдаткавана 98 мільярдаў рублёў.

**Алена Сіневіч**

## Учора вы - хлопцы, а сёння - вайскоўцы

**8 ліпеня са зборнага пункту на Азёрскай шашы ў войска было адпраўлена 278 хлопцаў. 78 з іх пойдуць у памежнікі і будуць несці службу на мяжы ў Гарадзенскай вобласці. Астатнія будуць служыць ў часцях Гарадзенскага гарнізона.**

Як звычайна, праводзіны пачаліся зранку. На імправізаваныя пікнічкі ля зборнага пункту на траўцы-мураўцы размясціліся кампаніі з сябрамі і сваякамі. Прызыўнікі вылучаліся з амаль тысячнага натоўпу коратка пастрыжанымі галовамі і гарнітурамі з адзення, якое не шкада і згубіць. А чаго прыбірацца - усё роўна вайсковую форму хутка выдадуць.

На адпраўку «ў апошні шлях», як пажартаваў адзін прызыўнік-аптыміст, прыйшлі і дзяўчаты. Але яны відавочна былі адсунутыя на другі план мацяркамі з торбачкамі і бацькамі, якія пасля 100 грамаў падбадзёрвалі сыноў байкамі са свайго слаўнага вайсковага мінулага.

У 13.00 у двары зборнага пункту пачаўся мітынг. На гэтую імпрэзу некаторыя навабранцы дабіраліся з дапамогай сябрукоў, бо ногі не трымалі ці то ад хвалявання, ці то ад перадазіроўкі спіртнога. Прызыўнікоў віншавалі гарадскі ваенны камісар, ветэраны, прадстаўнікі Камітэта салдацкіх мацярок. Ад моладзевых грамадскіх арганізацый быў толькі сакратар гаркама БПСМ Валерый Міранцоў, які выказаў меркаванне, што новаспечаныя салдаты адпраўляюцца ў войска «со смешанным чувством волнения и гордости от чего-то необыкновенного».

За сёлетні веснавы прызыў з Гарадзенскай вобласці ў войска адправіцца каля 2,5 тысячы юнакоў. 700 чалавек з іх - гарадзенцы. Усе яны будуць праходзіць службу ў Гродне і Гарадзенскай вобласці.

**Ганна Макоўская**

## Перарэгістрацыя жыве і перамагае

**Першага ліпеня скончыўся афіцыйны тэрмін перарэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў.Аднак зважаючы на тое,што заявы падаваліся уключна да 30 чэрвеня,вынікі перарэгістрацыі будуць вядомыя не раней, чым праз месяц.**

Як паведаміў нам галоўны спецыяліст па справах грамадскіх аб'яднанняў упраўлення юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкаму Алег Сліжэўскі,са 115 арганізацыяў і аб'яднанняў,якія існавалі ў вобласці на момант пачатку перарэгістрацыі,заявы падалі толькі 101.Асноўнай прычынай спадар Сліжэўскі назваў тое,што шмат арганізацыяў, зарэгістраваных як грамадскія на самой справе займаліся камерцыйнай дзейнасцю,г.зн. былі фіктыўнымі.Каб у будучым пазбегнуць гэтага,адной з умоваў перарэгістрацыі з'яўляецца абавязковае ўнясенне ў Статут арганізацыі не толькі назвы кіруючага органа,але і тэрміну, праз які ён збіраецца на чарговае пасяджэнне.Яшчэ адной адметнасцю з'яўляецца і тое,што юрыдычныя асобы не могуць быць заснавальнікамі грамадскіх арганізацыяў.

Гэтыя ды іншыя патрабаванні Закону, згодна словаў Алега Слікэўскага,і з'яўляюцца тымі прычынамі, па якіх практычна ўсе арганізацыі былі вымушаныя дапрацоўваць свае Статуты і прайсці працэдуру перарэгістрацыі.Аднак ёсць яшчэ адна агульная рыса,якая характарызуе большасць Статутаў.Гэта... наяўнасць граматычных памылак у заснавальніцкіх дакументах.

Тым не менш, пяць абласных арганізацыяў ужо прайшлі перарэгістрацыю.Справы шасці наступных знаходзяцца на разглядзе ў Мінюсце.Яшчэ дзвюм адмоўлена ў перарэгістрацыі.

Паводле словаў Сліжэўскага, ніводная партыя пакуль ва Ўпраўленне юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкаму не звярталася. «Гэтым займаецца Мінюст,-сказаў ён,-да нас партыі звернуцца тады,калі пройдуць перарэгістрацыю ў Менску і захочуць мець тут свае абласныя ды раённыя суполкі.»

**Рыгор Кавальчук**

## Твае дзеці павінны вучыцца па-беларуску!!!

Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы просяць тэлефанаваць усіх бацькоў г.Гродна, якія жадаюць вучыць сваіх дзяцей у падрыхтоўчых і першых класах на беларускай мове.

**Тэл. 47-09-64 (ТБМ і ТБШ г.Гродна) 2-10-54 (пасля 15.00, спытаць Таццяну ці Алеся).**

Спіс школаў, у якіх педкалектыў падрыхтаваны для навучання дзяцей на беларускай мове, а адміністрацыя школ не супраць адкрыцця беларускіх класаў

**Ленінскі р-н: СШ N21, СШ N32; Кастрычніцкі р-н: СШ N5, СШ N26**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Пазьняк уносіць карэктывы

**10 ліпеня ў Менску адбыўся сойм Беларускага народнага фронта «Адраджэнне», які разгледзеў пытанні палітычнай сітуацыі ў краіне, падрыхтоўкі да 6-га з'езду БНФ і справаздачу ўправы.**

На сойме быў зачытаны ліст лідэра Народнага Фронта Зянона Пазьняка, у якім ён зрабіў некалькі значных ініцыятываў. На думку лідэра БНФ, для таго, каб ва ўмовах « аўтарытарнай антыбеларускай дыктатуры» Народны Фронт быў шырокім рухам за вольную і незалежную Беларусь, дэмакратычным і аднача сова добра арганізаваным, кіруемым і дысцыплінаваным, неабходна рашуча змяніць прынцыпы яго кіравання. Зянон Пазьняк прапануе стварыць Палітычны Камітэт БНФ - як кансультацыйны орган пры сойме і старшыні руху.

Колькасць членаў сойма прадугледжваецца паменшыць да 41 чалавека, але дадаткова делегаваць у яго па два чалавекі ад кожнай вобласці. Прапаноўваецца стварыць яшчэ адзін орган — пашыраную ўправу, у якую таксама ўвойдуць прадстаўнікі рэгіянальных аддзяленняў. Павінна рэзка ўзрасці роля сойма ў непасрэдным кіраванні арганізацыяй.

«Калі старшыня БНФ будзе за мяжой, - гаворыцца ў лісце Пазьняка, — то павінна быць актывізаваная дзейнасць кіраўнічых асоб і кіруючых органаў Фронту. Усе канкрэтныя задачы і праблемы павінны вырашацца ў Беларусі. Старшыня БНФ павінен узяць на сябе агульныя пытанні стратэгіі, а таксама курыраваць палітыку БНФ і замежную дзейнасць Фронту.»

У лісце абвяшчаецца шэраг ініцыятываў аб адносінах з цяперашнім Вярхоўным Саветам, аб стварэнні грамадскага парламента, аб непрызнанні вынікаў прайшоўшай кампаніі па выбарах прэзідэнта.

Гэты ліст старшыня буйнейшага апазіцыйнага руху ў Беларусі напісаў пасля сустрэчы з некалькімі кіраўнікамі рэгіянальных арганізацый БНФ і уплыву іх прапановы. Паводле меркаванняў многіх удзельнікаў сойма, гэта значна зніжае небяспечнасць расколу ў арганізацыі, магчымасць якога абмяркоўвалася апошнім часам. Затым у дыскусіі выступілі кіраўнікі арганізацыі і сябры сойма Вінцук Вячорка, Юрый Хадыка, Сяргей Папкоў, Юрый Беленькі, кіраўнік «Маладога фронту» Павел Севярынец і многія іншыя. Дыскусія вялася аб ходзе падрыхтоўкі з'езду, тэрмінах яго правядзення, чарговасці выбрання кіруючых органаў. Прапанова абраць сустаршынёй аргкамітэта па падрыхтоўцы з'езда Юрыя Беленькага не набрала галасоў. Не атрымала падтрымкі ініцыятыва Юрыя Хадыкі аб перанесе з'езда на восень. Асабліва вострая дыскусія разгаралася аб чарговасці выбрання старшыні руху, яго намеснікаў і непасрэдна сойма БНФ.

На сойме прынята палітычная заява аб нелігітымнасці прэзідэнта А.Лукашэнкі пасля 20 ліпеня, шэраг іншых дакументаў.

**Генадзь Барбарыч**



**Георгій Ціханаў, кіраўнік камітэта па справах СНД Дзяржлумы РФ і Сяргей Посахаў, надзвычайны і паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта РБ у органах СНД. У іх ёсць усе падставы ўсміхацца - Беларусь сама лезе ў Расейскую пастку... Фота Irex/ ProMedia**

# Парламенцкая асамблея падтрымала беларускую апазіцыю

**Становішча з захаваннем правоў чалавека ў Беларусі абмяркоўвалася на восьмай сесіі парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая праходзіла 6-10 ліпеня ў Санкт-Пецярбургу. Нашу краіну прадстаўлялі дэпутаты Вярхоўнага Савета А.Лябедзька і У.Нісцюк. Старшыня «вышэйшай палаты» П.Шыпук не быў дапушчаны ў якасці афіцыйнага прадстаўніка Беларусі і прысутнічаў як назіральнік ад краіна СНД.**

**Дэпутат А.Лябедзька выступіў на сесіі двойчы. Карэспандэнт ПАГОНІ сустрэўся з ім у Таўрычаскім Палацы, дзе праходзіла паседжанне.**

***- Спадар Анатоль, пра што Вы папярэджвалі еўрапейскую грамадскасць?***

- Я казаў, што югаслаўская праблема - не апошняя ў Еўропе, якая звязана са здушэннем людзей за іх нацыянальныя ці палітычныя перакананні. Развіццё таталітарызму ў Беларусі пагражае еўрапейскай цывілізацыі.

***- А Вы не казалі пра небяспеку тых палітычных сілаў у Расіі, якія, нягледзячы на відавочнае грэбаванне правамі чалавека ў Беларусі, падтрымліваюць існуючы рэжым?***

- Я папярэджваў пра небяспечную пагрозу суверэнітэту нашай краіны. У гэтым плане наспеў час выказаць сваю пазіцыю Злучаным Штатам і Англіі, якія ўзялі на сябе гарантыі забеспячэння незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі.

Рэзалюцыя АБСЕ па Беларусі рэкамендавала традыцыйныя рэчы: палітычны дыялог і свабодныя выбары. Нас чуюць еўрпейскія парламентарыі, прымаюць рэзалюцыі, але еўрапейскія ўрады пакуль што не робяць канкрэтных крокаў, каб дапамагчы дэмакратыі ў Беларусі.

...Падчас сесіі парламецкай асамблеі Таўрычаскі Палац пікетавалі курды. Іх воклічы даносіліся да фае Палаца, але парламентарыі іх не чулі і бкыцам не бачылі, хаця курды былі апранутыя ў белыя балдахіны, сімвалы смерці. Калі мы жадаем, каб нас пачулі, мы мусім заяўляць пра свае інтарэсы на ўвесь голас, і не толькі вуснамі дэпутатаў на еўрапейскіх трыбунах.

**Сяргей Самасей**

**Прыняццем дэкларацыі завяршылася восьмая сесія Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, якая з 6 па 11 ліпеня праходзіла ў Санкт-Пецярбурзе. Як удзельнікі вырашылі не прымаць асобных рэзалюцый, а ўсе праблемы, разам з косаўскай і беларускай, унесці ў тэкст адзінай дэкларацыі.**

У дакуменце адзначаецца заклапочанасць ПА АБСЕ сітуацыяй у Беларусі і нагадваецца, што гаворка аб гэтым ішла яшчэ два гады таму на шостай асамблеі ў Варшаве. ПА АБСЕ прымае да ўвагі «наяўнасць сур'ёзных рознагалоссяў паміж палітычнымі сіламі», а таксама правядзенне ў Беларусі запланаваных на 2000 год парламенцкіх выбараў. Адзначаецца, што тэрмін дзеяння Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканне і дзеючага зараз Нацыянальнага сходу заканчваецца ў 2000 годзе.

Пры гэтым у дакуменце згадваюцца недахопы ў выбарчай сістэме, якія мелі месца раней. Улічваючы ўсё гэта, ПА АБСЕ «настойліва заклікае ўсе палітычныя сілы Беларусі супрацоўнічаць у працэсе канструктыўных перамоваў і шукаць выхад з палітычнага тупіка».

У дакументе адзначаецца падтрымка з боку ПА дзейнасці Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ у Менску — «найперш у тым, што тыя цца назірання за сітуацыяй з правамі чалавека і за палітычнай сітуацыяй у Беларусі». ПА АБСЕ прадпісвае спецыяльнай рабочай групе па Беларусі «працягваць свае намаганні па прыцягненні ўсіх бакоў для мэтанакіраванага дыялогу па пытаннях аб выбарах, які распачаўся падчас апошняга паседжання ў Бухарэсце; пашырыць межы палітычнага дыялогу ў Беларусі, з тым каб правесці выбары ва ўмовах, аб якіх могуць дамовіцца ўсе палітычныя бакі і здольныя прывесці да ўзаемапрымальнага выніку; імкнуцца да каардынацыі і рэзінтэграцыі іншых міжнародных арганізацый у Беларусі, найперш у тым, што датычыць аказання тэхнічнай дапамогі ў падрыхтоўцы да маючых адбыцца выбараў (садзеянне ў распрацоўцы законаў аб выбарах, назіранне за СМІ і інш.). ПА заклікае ўрад Беларусі пагадзіцца з тым, каб працэдура і ход выбараў адпавядалі абавязацельствам перад АБСЕ, а таксама прадаставіць палітычным партыям і апазіцыйным групам доступ да дзяржаўнага тэлебачання і радыё.

У дэкларацыі ўтрымліваецца таксама просьба да ўрадаў дзяржаў, якія ўваходзяць у АБСЕ, і міжнародных арганізацый выказаць сваю падтрымку развіццю дэмакратычнага выбарчага працэсу ў Беларусі і прадаставіць неабходную дапамогу.

**Уладзімір Глод**

# Курсы валют

**На 12 ліпеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 262.000 беларускіх рублёў. Еўра — 267.921,20. Нямецкая марка — 136.985,93. Расійскі рубель — 10.730. Украінская грыўна — 66.367,76. Аўстрыйскі шылінг — 19.470,59. Англійскі фунт стэрлінгаў — 407.855,40. Італьянская ліра — 13.836,98. Французскі франк — 40844,32. Швейцарскі франк — 166.783,37. У параўнанні з пятніцай, 9 ліпеня, афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 12 ліпеня даляр куплялі па 430.000—435.000 і прадавалі па 440.000—445.000 рублёў. У параўнанні з пятніцай курс не змяніўся.

**Ягор Звоннікаў**

# Ламаччу не месца ў Польшчы!

**З пачатку ліпеня памежным уладам Рэспублікі Польшча прадастаўлена права ажыццяўляць функцыі кантролю тэхнічнага стану аўтамабіляў на памежных пераходах і ў прыгранічных зонах. Такім чынам, польскія памежнікі зараз могуць не дазволіць уезд на тэрыторыю сваёй краіны няспраўных аўтатранспартных сродкаў.**

Як паведаміў на брыфінгу 8 ліпеня прэс-сакратар МЗС Мікалай Барысевіч, дзеянні польскіх уладаў заснаваныя на распараджэнні міністра транспарту і марской гаспадаркі Рэспублікі Польшча па пытаннях тэхнічных параметраў аўтамабіляў, а таксама ўмоваў па іх абавязковым абсталяванні ад 1 красавіка 1999 года і распараджэнні міністра ўнутраных справаў па пытаннях ажыццяўлення кантралявання дарожнага руху ад 25 траўня 1999 года.

Абодва дакументы рэгулююць умовы, парадак і падставы ажыццяўлення дарожнага кантролю аўтатранспартных сродкаў на тэрыторыі Польшчы і пры іх накіраванні праз памежныя пераходы.

**Андрэй Асмалоўскі**

# Мільярд - не грошы!

**На 27 ліпеня прызначаны аўкцыён па продажу нерухомай маёмасці у Гродне. Ён пройдзе па метаду зніжэння пачатковай цаны.**

На яго выстаўлены тры аб'екты незавершанага будаўніцтва, што ў вёсцы Мінойты і гарадскіх пасёлках Зельва і Бераставіца. Падчас аўкцыёну магчыма зніжэнне цэн лотаў да мінімальных значэнняў, якія складаюць ад 1 мільярда 558 мільёнаў да 502 мільёнаў рублёў.

**Ірына Сазановіч**

# Байкеры стварылі клуб

**У Гродне створаны клуб байкераў. Асноўнымі мэтамі стварэння гэтага маладзевага мотаклуба з'яўляюцца аб'яднанне аматараў язды на матацыкле, павышэнне іх вадзіцельскай культуры, а таксама культуры адпачынку.**

Сябрам клуба можа стаць любы чалавек старэйшы за 16 гадоў, якому не абыякавы матацыкл. Пры гэтым наяўнасць у яго свайго матацыкла і матарolера зусім не з'яўляецца абавязковай. У бліжэйшых планах клуба — арганізацыя абучэння матацыклістаў, у тым ліку з удзелам супрацоўнікаў ДАІ, майстэрству бяспечнай язды, аказанне ім дапамогі ў рамонце транспарту, правядзенне конкурсаў вадзіцельскага майстэрства, турпаездак, дабрачынных выездаў у дзіцячыя дамы.

У перспектыве плануецца стварыць грамадскую майстэрню па рамонце матацыклаў, а таксама арганізаваць падобныя клубы ў розных гарадах і раёнах вобласці.

**Ася Куніцкая**

# У Жэневе успамінаюць Беларусь

Пасяджэнне Камітэта па правах чалавека парламентарыяў Міжпарламенцкага саюза (МПС) адбылося ў Жэневе 7-8 ліпеня. У рамках гэтага пасяджання адбыліся слуханні па пытанню аб парушэнні правоў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі. У слуханнях прыняў удзел каардынатар Хартыі-97 па міжнародных сувязях Андрэй Саннікаў. У сваім выступленні і адказах на пытанні ён распавядаў пра агульную сітуацыю на Беларусі, завяршэнне тэрміну паўнамоцтваў Лукашэнкі 20 ліпеня, парушэнне правоў дэпутатаў ВС А.Клімава, В.Кудзінава, В.Ганчара, С.Багданкевіча, В.Шчукіна, П.Знаўца, С.Домаша ды іншых. Акрамя таго, ён прыцягнуў увагу сябраў Камітэта да арышту М.Чыгіра ды знікненню Ю.Захаранкі. Былі згаданы «саюз» з Расіяй і складанае становішча дэмакратычных партый і арганізацый на Беларусі.

У 1998 годзе Камітэт МПС прыняў да разгляду больш як дзесяць справаў наконт парушэння правоў дэпутатаў ВС Беларусі. Афіцыйна нашу краіну ў МПС, як вядома, прадстаўляе прызначаны Лукашэнкам Нацыянальны сход. Дадзены факт, аднак, не перашкаджае гэтай міжнароднай арганізацыі разглядаць выпадкі парушэння правоў дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Пасля лютаўскага пасяджэння Камітэта па правах чалавека МПС, у якім браў удзел дэпутат ВС Анатоль Лябедзька, было прынята рашэнне накіраваць у Беларусь місію МПС для вывучэння фактаў парушэння правоў дэпутатаў на месцы. Місія павінна была адбыцца ў 20-х чыслах чэрвеня. Беларускія ўлады абяцалі любыя сустрэчы з афіцыйнымі асобамі і апазіцыяй, а таксама беспераШкодны доступ да зняволенных Уладзіміра Кудзінава і Андрэя Клімава. Аднак у самы апошні момант улады адмянілі сваю згоду на прыезд місіі. Зараз яны зноў абяцаюць еўрапейскім парламентарыям усе тое ж. Місія павінна прыехаць напрыканцы жніўня -у пачатку верасня.

**Ул. інф.**

**Каментар прэс-цэнтра Хартыі-97**

***Безумоўна, слуханні па фактах парушэнняў правоў дэпутатаў ВС сведчаць пра тое, што гэтыя правы парушаюцца, і МПС гэта прызнае. Дарэчы, менавіта дэпутатам - «палатачнікам» даводзіцца апраўдвацца за беззаконне ўладаў. Нават там, дзе нелегітымнаму парламенту, здавалася б, удалося дамагчыся сяброўства, ім даводзіцца адказваць за самавольства, што чыніцца ў краіне.***

***Варта таксама адзначыць адмову сябрам Камітэта МПС у прыездзе на Беларусь. Улады адмовіліся прыняць місію, нягледзячы на нядаўнія запэўніванні Лукашэнкі наконт развароту знешняга вектару Беларусі на Захад. Здаецца, словы прэзідэнта, як звычайна, застаюцца толькі словамі.***

# Песня над Нёманам

**3 ліпеня ў Гарадзенскім драмтэатры адбыўся VII гарадскі фестываль беларускай эстраднай песні «Песня над Нёманам». Удзел у фестывалі бралі хлопцы і дзяўчаты ва ўзросце ад 16 да 27 гадоў. Абавязковай умовай удзелу было выкананне адной кампазіцыі па-беларуску.**

Лепшай спявачкай у 1999 годзе прызналі Алену Багдановіч. Дыпломамі розных ступеняў журы таксама адзначыла Аляксандра Яфімікa, Надзею Адрыянцаву, Святлану Міхальчук, Алену Абрамовіч. Істотную дапамогу сёлетняму фестывалю аказалі фундатары. Сярод іх - фірмы «З СБ» і «Арт Лайн», абласное аддзяленне фонда міру і гарадзенскі мастак Дзмітрый Іваноўскі. Дарэчы, апошні нязменна дапамагае фестывалю на працягу ўсіх сямі гадоў яго існавання.

**Ул.інф.**

# Курт Вулхайзэр: «Беларуская мова - гэта сялянскі розум плюс шляхецкасць»

**Курт Вулхайзэр - доктар філасофіі, дацэнт Тэхаскага універсітэта. Чалавек, які валодае ўкраінскай, рускай, мадзьярскай, крыху горш польскай і нямецкай мовамі, чытае па-чэшску, па-балгарску. Але найбольш выключна з яго вуснаў гучыць беларуская мова. Чысцютка, быццам бы і жыў ён увесь час не ў Штатах, а дзе-небудзь пад Індурай. Спадар Курт мае на Беларусі свой інтарэс - ён даследуе этнічна-моўныя працэсы на беларуска-польскім памежжы. За апошнія дзевяць гадоў ён ужо чацвёрты прыязджае ў Беларусь. Днямі ён завітаў да нас у рэдакцыю...**

- Апошні раз я быў у Беларусі ў 1996 годзе. Такое ўражанне быццам нічога не змянілася. Поўны эканамічны занялад. Першае, што кідаецца ў вочы - гэта курс даляра. Наогул, становішча даволі сумна, калі глядзіш на ўсё, што робіцца ў краіне. З другога боку, былі вельмі цікавыя сустрэчы з моладдзю, гэта якраз дае надзею, што ў Беларусі лепшая будучыня. Пакуль старэйшае пакаленне будзе ва ўладзе, нічога прынцыпова ня зменіцца.

***- Што Вас гэтым разам прывяло ў Беларусь?***

- Я працягваю свае даследаванні адносна развіцця беларускіх гаворак на ўсходзе Беласточчыны і на захадзе Гарадзеншчыны. Бо калі паглядзець на моўную карту гэтага рэгіёну, мы бачым, што традыцыйныя гаворкі Усходняй Беласточчыны, Паўночнай Сакольшчыны і Гарадзеншчыны не адрозніваюцца па сваёй структуры. На Сакольшчыне тыя ж беларускія гаворкі, што і ў Гарадзенскім раёне, называюца яны - гаворкі гарадзенскага тыпу. А мяне цікавіць на якіх моўных узроўнях разыходзяцца гэтыя гаворкі. Як вядома, пасля вайны правялі мяжу, абсалютна не ўлічваючы этнічных і моўных асаблівасцяў. Мо гэта і нядрэнна, што беларускія гаворкі апынуліся на тым баку мяжы. Канешне, і там маладшае пакаленне пераходзіць на іншую мову (польскую - **П.М.**). Цікава, што ў вясковай мясцовасці - там, дзе маладыя яшчэ гавораць па-беларуску, захаваліся тыя архаічныя рысы мовы, якія ў Беларусі захаваліся толькі ў старэйшага пакалення. Таксама я вывучаю, як ідзе фармаванне моўнай свядомасці ў гэтых рэгіёнах. Як насельніцтва ўсведамляе на якой мове гаворыць. Тут даволі цікавыя разыходжанні. На Гарадзеншчыне, у вёсках, большасць людзей кажа, што гаворыць на змешанай мове, на трасянцы. На польскім баку мяжы няма такога паняцця, як змешаная мова. На Беласточчыне моўныя традыцыі захаваліся ў большай ступені.

***- Чаму, на Ваш погляд, беларускія вёскі, у адрозненне ад Прыбалтыкі, не сталі падмуркам нацыянальнага адраджэння?***

- Магчыма, гэта звязана з вялікай кансерватыўнасцю вясковага чалавека ў Беларусі. Гэтая рыса мае і станоўчыя элементы: захаванне на працягу многіх стагоддзяў старажытных традыцыяў. Толькі за апошнія 50 гадоў гэтыя традыцыі пачалі адміраць. А адмоўны аспект у тым, што вясковы чалавек, да зусім нядаўняга часу, не далучаўся да нацыянальнага руху. Тут вялікую ролю адыгрывае мясцовая свядомасць, дзе вёска - гэта найвялікшая супольнасць, якую селянін прызнае як сваю. Гэта кансерватыўная рыса, бо ў сярэднявеччы гэткая свядомасць была ў сялянаў паўсюль у Еўропе.

***- Дзе Вы бераце матэрыял для даследаванняў?***

- Моўны матэрыял я бяру з інтэрв'ю з жыхарамі вёсак. У асноўным гэтую працу робяць мае памочнікі. Я вельмі хацеў, каб імі былі людзі, што паходзяць з гэтых вёсак. У асноўным гэта студэнты беларускай філалогіі з Гарадзенскага і Беластоцкага універсітэтаў. Яны едуць у свае родныя вёскі і праводзяць інтэрв'ю. Ёсць адмысловы апытальнік: пра мясцовыя традыцыі, пра сучаснае жыццё. Выкарыстоўваю яшчэ і сацыялінгвістычныя анкеты наконт стаўлення да розных моваў. У 1996 годзе я праводзіў на Гарадзеншчыне даволі цікавы эксперымент. Ён быў распрацаваны ў Канадзе ў 60-я гады для вывучэння двухмоўнай сітуацыі ў краіне.

***- У чым сутнасць гэтага эксперыменту?***

- Эксперымент заключаецца ў наступным. Аднолькавы тэкст дублюецца на розных мовах. Адзін і той жа чалавек чытае ўсе гэтыя рознамоўныя варыянты. Затым удзельнікі эксперыменту павінны ацаніць чалавека, які чытае гэтыя тэксты, па голасе. Ім не кажуць, што гэта адзін і той жа чалавек. На Гарадзеншчыне атрымаліся вельмі цікавыя вынікі. У некаторых выпадках, жыхары гарадзенскіх вёсак па крытэрыю «адукаванасць» ці «мае высокую пасаду» ставілі беларускі варыянт тэксту крыху вышэй за рускі. Гэта азначае, што беларуская мова вясковымі жыхарамі ўспрымаецца як мова інтэлігенцыі. Але трасянчаны варыянт па такіх катэгорыях, як «працавітасць», «шчырасць», «шчодрасць» успрымаецца лепш за рускі і беларускі варыянты. Гэтым можна вытлумачыць тое, чаму Лукашэнка мае такі ўплыў на вясковае насельніцтва. Ён успрымаецца як свой і, магчыма, свядома захоўвае адметнасць свайго маўлення.

***- У Беларусі некаторыя навукоўцы лічаць, што не варта адраджаць беларускую мову, а проста зрабіць у якасьці дзяржаўнай усім зразумелую «новамову» - трасянку.***

- Можна правесці ў сусветнай гісторыі адпаведныя паралелі. Прыкладам, Нарвегія, якая шмат стагоддзяў была пад Даніяй. Уся інтэлігенцыя ў Нарвегіі размаўляла на нарвежска-дацкай трасянцы. Пасля гэтая трасянка стала дзяржаўнай мовай. Так ёсць і па сённяя. Але цяпер сітуацыя ўскладняецца. Яшчэ ў мінулым стагоддзі, адзін мовазнавец стварыў сінтэтычную мову, якая мае выразна нарвежскі характар. Яна таксама мае афіцыйны статус. Існуе пэўная канкурэнцыя. Тут напрошваюцца пэўныя аналогіі з «тарашкевіцай» і «наркомаўкай». Адна нацыя мае дзве літаратурныя мовы. Цяпер у Нарвегіі спрабуюць аб'яднаць гэтыя мовы ў адзіную нарвежскую мову.

***- Давайце вернемся да беларусаў. Адкуль у Вас, амерыканскага немца, узнікла жаданне вывучыць беларускую мову?***

- Упершыню я зацікавіўся беларускай мовай, калі вывучаў гісторыю кнігадрукавання ў славянаў. Знайшоў некаторыя працы пра Скарыну, пра ягоную дзейнасць. І быў проста ўражаны тым, што чалавек, які паходзіў якраз з беларускіх земляў, з ВКЛ, першым сярод усходніх славянаў пачаў друкаваць кнігі. А маім настаўнікам беларускай мовы быў беларускі эміграпт Піліп Манько, які паходзіў з Магілёўшчыны. Мы пазнаёміліся з ім у Індыяне. Спадар Манько выкладаў там рускую мову ў мясцовым універсітэце. Апроч мовы я пазнаёміўся і з новай для мяне беларускай гісторыяй.

***- Ці ёсць яшчэ ў свеце людзі, якія займаюцца навуковым вывучэннем беларусаў і беларускай мовы?***

- Так, у Англіі ёсць знакаміты даследчык Дзінглі. Вельмі плённа працуе адзін аўстрыйскі навуковец. У Нямеччыне ёсць спецыялісты. У Парыжы існуе суполка беларусістаў, але там людзі, якія болей займаюцца паліталогіяй. Хаця вывучаюць і этнамоўныя працэсы. Шмат маладых даследчыкаў далучаюцца да беларусістыкі.

***- Чым выклікана такая цікавасць да Беларусі?***

- Найвялікшая цікавасць да Беларусі і беларусаў сярод гісторыкаў ды палітолагаў. Цяперашнія працэсы ў Беларусі вельмі хвалююць людзей на Захадзе. Палітолагі цікавяцца Беларуссю, бо гэта яскравы прыклад таго, да чаго можа давесці адсутнасць выразнай нацыянальнай свядомасці ў насельніцтва. Калі сама дзяржава не распрацоўвае канцэпцыю нацыянальнай ідэі, атрымліваецца - лукашэнкаўская Беларусь. Але сярод заходніх спецыялістаў пануюць аптымістычныя настроі, бо народатворчыя працэсы ў Беларусі яшчэ не скончыліся. Моладзь, прынамсі, адукаваная, больш нацыянальна свядомая і ўспрымае незалежнасць як дадзенае. Памкненняў вярнуцца ў СССР у моладзі значна менш, чым у старэйшага пакалення.

***- Вы працуеце ў Тэхаскім універсітэце. Якое там становішча з беларусістыкай?***

- Ва універсітэце працуе кафедра славянскіх моваў. У мяне восем калегаў. У мінулым навучальным годзе я выкладаў курс для пачынаючых «Уводзіны ва ўкраіністыку і беларусістыку». Разглядаў гісторыю ды культуру ўкраінцаў і беларусаў у параўнаўчым аспекце.

***- Ці ёсць попыт на беларускую гісторыю і культуру сярод студэнтаў?***

- Так, запісалася на гэты спецкурс 15 чалавек, з якіх палова цікавіцца менавіта Беларуссю. Збольшага ўсе яны небеларуская паходжання. Быў адзін хлопец габрэйскага паходжання, які паходзіў з Беларусі, таму ён цікавіўся гэтай краінай. Лічу, што курс удаўся. Але вельмі цяжка было знайсці літаратуру па-ангельску аб Беларусі. Мне самому даваўся некаторыя рэчы перакласці на ангельскую мову. У наступным навучальным годзе я зноў буду выкладаць гэты курс.

***- Ахарактарызуйце, калі ласка, беларускую мову ў некалькіх словах.***

- Мне вельмі падабаецца гэтая мова. У ёй спалучаецца сялянскі розум, спрыт і старадаўняя шляхецкасць. Традыцыі беларускага селяніна і традыцыі Вялікага Княства. З усіх усходнеславянскіх моваў, яна найлепш захавала лексічны фонд і традыцыі ўсходняга славянства.

***- І напрыканцы, якім Вы бачыце лёс беларускай мовы на Беларусі?***

- Пакуль цяжка сказаць. Усё залежыць ад саміх беларусаў. Сярод моладзі няма комплексаў адносна беларускай мовы. Беларусы вельмі практычны народ. Калі беларус зразумее, што яму будзе карысць ад карыстання сваёй роднай мовы, ён будзе на ёй размаўляць. Маюць рацыю і тыя, хто гаворыць, што калі беларускай мовай будуць карыстацца вышэйшыя асобы дзяржавы, народ пойдзе за ёю.

...Я вельмі хвараў душою за беларусаў заўсёды і ва ўсім. Хочацца, каб Беларусь была нармальнай краінай, каб вярнулася ў Еўропу, дзе заўсёды была.

**Гутарку вёў Павал Мажэйка**




# Басовішча - 99

**16-17 ліпеня ў Гарадку, што каля Беластока, пройдзе юбілейны, дзесяты рок-фестываль «Басовішча». У гэтым годзе яго правядзенне да апошняга моманту заставалася пад пытаннем.**

«Басовішча» штогод арганізоўваецца Беларускай Асацыяцыяй Студэнтаў (Польшча). За ўвесь час правядзення фестывалю ў ім прымалі ўдзел самыя розныя беларускія гурты (Бонда, N.R.M., Новае Неба, Уліс і шмат іншых), у тым ліку і гарадзенскія (Deviation, Кальян, Айша). Кожны год былі і польскія выканаўцы.

Аднак у гэтым годзе ўзніклі пэўныя непаразуменні паміж арганізатарамі з беларускага боку да некаторымі беларускімі гуртамі. У апошні момант кампраміс быў знойдзены. Таксама хадзілі чуткі пра тое што запрасіўшы на юбілейны фестываль супер-зорку польскага рока Казіка Сташэўскага, які бярэ за выступ не 100 і не 200 даляраў, арганізатары нібыта ахвяравалі асобнымі беларускімі гуртамі.

Тым часам, ведаючы, што спонсары грошай не далі і БАСу давялося запазычыцца на значную суму (нешта каля 15 тысячаў USD), гэтая чутка адпадае як недарэчная. Зараз, дзякуй Богу, усе спрэчныя пытанні ўжо вырашаны, і ў гэтым годзе кожны, хто прыедзе на фестываль зможа атрымаць асалоду ад выступаў такіх беларускіх гуртоў, як N.R.M., Новае Неба, Уліс, Крама, Мясцовы Час, Znich, гарадзенскіх Deviation, Кальян. Зразумела, будзе і вышэйзгаданы Казік, а таксама цяжкі польскі рок-гурт «Sweet Noise»

Спяшайцеся пачуць, бо сёлетні фестываль не толькі юбілейны, але і своеасаблівы: з наступнага году ў ім возьмуць удзел толькі тыя гурты і выканаўцы, які раней на ім не выступалі, а значыць пачуць той жа «Уліс» на «Басовішчы» апасля гэтага года будзе ўжо немагчыма. Калі вас пераканалі мае аргументы, тэлефануйце: 2-34-68; 72-11-83 (паклічце Андрэя).

**Рыгор Кавальчук**

# Беларускае аблічча

**Культурная інтэграцыя з Расіяй немагчыма», - лічыць даследчык Георгій Максюта. Беларусь ідзе сваім шляхам, і кожны год суверэннага існавання робіць нас этнічна ўсё менш падобнымі да суседзяў.**

Спадар Максюта даследуе сацыяльна-псіхалагічныя асаблівасці нацыянальнага характару і менталітэту беларусаў, зважаючы на Чарнобыльскую катастрофу і распад СССР. Менавіта экалагічныя і электаральныя паводзіны людзей, на думку даследчыка, з'яўляюцца аднолькавымі ў маштабе ўсёй краіны і закранаюць усіх і кожнага.

Усе дзеянні беларускай дзяржавы па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС звяліся да вывучэння гэтых наступстваў самымі рознымі навукамі і да заклікаў пра дапамогу да сусветнай супольнасці. Гэта дае падставы лічыць, што беларусам уласцівы «фаталізм, пасіўна-прыстасавальніцкае рэагаванне, імкненне перадаць прыняцце рашэнняў каму-небудзь, чаканне цуду або дапамогі звонку, спадзяванне на «а можа?».

Што тычыцца электаральных паводзінаў, дык у адрозненне ад суседзяў, насельніцтва РБ мела толькі адны паўнавартасныя выбары прэзідэнта і адны не да канца праведзеныя выбары Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Гэта сведчыць пра тое, што беларусы канфармісты, кансерватыўныя, адчуваюць страх перад няўпэўненасцю.

Найбольш яскрава, лічыць Георгій Максюта, якасці нацыянальнага характару беларусаў увасобіліся ў выбары прэзідэнта. Насцярожанае стаўленне да ўсяго чужога, ксенафобія антызаходняга характару, эмацыйнасць, імпульсіўнасць. Беларусы фанатычна крыўдзяцца, увесь час гатовыя дэманстраваць сваю сілу, іх раздражнее інтэлектуалізм **(гл. і табліцу).**

Сапраўды, твар прэзідэнта і ёсць аблічча краіны. Асабістыя якасці прэзідэнта сведчаць пра тое, хто ёсць ягоныя выбаршчыкі, нашмат больш красамоўна, чым літаратурныя сачыненні на гэтую тэму.

Пасля распаду СССР Беларусь пайшла па шляху супрацьлення дэмакратычным пераўтварэнням і стала падганяць грамадства пад ужо вядомую сістэму кіравання. І ўсё ж, нягледзячы на тое, што даследаванне цалкам прасякнута фаталізмам, аўтар упэўнены - сярод беларусаў усё больш тых, хто адчувае, думае і дзейнічае інакш, чым большасць народу. Заклік «Беларусь - у Еўропу!» з кожным годам усё глыбей пранікае ў беларускае грамадства.

**Павал Мажэйка**

**Якасці характару і менталітэту розных нацый**

| Якасці, якія спрыяюць трансфармацыі (10) | Беларусы | Рускія | Украінцы | Палякі | Літоўцы | Якасці, якія не спрыяюць трансфармацыі (0) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| інтэрнальнасць | 1,5 | 3 | 4 | 7,5 | 6,5 | экстэрнальнасць |
| прагматызм | 1,5 | 4 | 4,5 | 7 | 6,5 | інфантылізм |
| самастойнасць | 1,5 | 3,5 | 3,5 | 6,5 | 7 | утрыманства |
| крэатыўнасць | 1,5 | 3,5 | 4 | 5,5 | 6,5 | канфармізм |
| рэалізм | 3 | 4 | 4 | 6 | 6,5 | рэзанёрства |
| рацыяналізм | 2 | 4 | 3,5 | 5 | 6 | наіўнасць |
| супрацоўніцтва | 2,5 | 5 | 4,5 | 7,5 | 6,5 | аўтарытарызм |
| праектаванне будучыні | 1 | 3,5 | 2,5 | 6,5 | 7 | футурафобія |
| разам | 14,5 | 30,5 | 30,5 | 51,5 | 52,5 | |

# «Прачнуліся званы Гародні...»


Алег Януль

**Алег Януль нарадзіўся ў 1957 годзе ў сям'і настаўніка на Зэльвеншчыне. У 1980 годзе скончыў Менскі інстытут культуры. З 1980 года працаваў у розных установах культуры горада. Друкаваўся ў газетах «Праца», «Гродзенская праўда», «Милицейский вестник». Рыхтуе да друку зборнік вершаў.**

* * *

У нетрах снягоў Белай Русі,
Канаю я немы і босы...
Жагнаюся і дзіўлюся
На мёртвыя, белыя росы...

Абшары віхурацца прахам
І гікае дзікае шэсце...
І прагне няўмольная плаха...
Крыві, як зямнога прышэсця...

І зноў касавурацца зоры,
І сівер шукае здабычу...
Айчына!.. - надзея і гора,
У хрыпе смяротным я клічу...

## Вішнёвы сад...

Збуяў, здзічэў вішнёвы сад...
І вецер скаламуціў голле...
Нішто не вернецца назад,
Але я варушу вуголле...

Пульсуе май у скроні дрэў...
Усё блізка так і так далёка...
Не, не... Той вобраз не сатлеў...
У сэрцы ён маім глыбока...

...Мяне ужо не адагрэць,
І з лёсам я даўно не ў ладзе...
Да толькі йду, каб зноў згарэць
У тым старым,
вішнёвым садзе...

## Прачнуліся званы Гародні...

Край абудзіўшы наш заходні,
Праслаўлены ва ўсе вякі,
Прачнуліся званы Гародні
Ударылі вечавікі...

Над Прынямоннем стогнуць бомы,
Ірвуць нам душы на шматкі...
Праз плач пытаюць: скуль і хто мы?
За што нам выпаў лёс такі?..

На волю рвецца боль народны,
Вякоў не спраўджаны прысуд...

Гудуць, завуць званы Гародні,
Нашчадкі гарадзенскіх труб...

І з уваскрэшаным тым звонам,
Страсаючы пласты ілжы,
Галосіць з гарадзенскім бомам
Народ, распяты на крыжы...

Званы гудуць, а я - нямею...
Малюся гмахам камяніц...
І плачу, - бо не разумею,
Тваіх, Айчына, таямніц...

Завуць званы... Я чую крокі...
Сышло цярпенне грамады...
Бо прывялі ілжэпарокі,
Народ да прорвы, да бяды...

І больш няма куды падацца,
Рука да болю цісне крыж...
І так карціць перажагнацца,
Што мусіць болей не сцярпіш...

Прачнуліся званы Гародні...

# Чаму маўчыць Някляеў?

**Рашэнне Уладзіміра Някляева не вяртацца на Беларусь выклікала ў беларускім грамадстве рэзананс. Меркаванні падзяліліся. Адны лічаць, што ў Беларусі людзі мастацтва не маюць умоваў для плённай працы. Іншыя ўпэўненыя, што людзі такой велічыні, як Някляеў папросту абавязаныя заставацца на Беларусі. Мы звярнуліся да прадстаўнікоў культурных колаў Гарадзеншчыны з просьбай выказаць свае меркаванні на гэты конт, і задалі ім наступныя пытанні:**

***1. Вашае асабістае стаўленне да ад'езду Уладзіміра Някляева.***

***2. Дзе ў сённяшніх умовах месца беларускай інтэлігенцыі: на Бацькаўшчыне, ці ў эміграцыі?***

**Данута Бічэль**, старшыня Гарадзенскай філіі Саюза Пісьменнікаў Беларусі:

**1.** - Уладзімір Някляеў па сённяшні дзень афіцыйна лічыцца ў адпачынку. Хачу працытаваць Вольгу Іпатаву, якая выконвае абавязкі старшыні СПБ: «...пазіцыя Рады СПБ такая - дачакацца афіцыйнага падцверджання пазіцыі старшыні, газетныя матэрыялы не дакумент». Я згодна з гэтымі словамі, і В.Іпатава па тэлефоне ўлічыла маю думку. Што да самога факту з'яўлення ўсіх гэтых хуткапальных матэрыялаў у друку, то, мяркую, тут вінаватае лета і проста няма пра што пісаць. Думаю, што Някляеў праз сяброў ПЭН-клуба атрымаў пуцёўку ў нейкі санаторый ў Еўропе. Гэты год быў у яго не на чалавечы арганізм. Я была на той Радзе, калі Раманаў, Арлоў, Сідарэвіч, Скобла адбіралі ў Някляева рэдактарства ў «Крыніцы», якую ён стварыў, а іх, шкадуючы, што не маюць працы, уладкаваў. Чула, што яны хадзілі да Замяталіна. Так што Някляеў, якога ўсе любілі да старшынства ў СПБ, атрымаў тое, на што здольныя брыгадзіры ў нашым вялікім калгасе, а з боку ўлады яшчэ болей.



*Хай паляць сялібы і гвалцяць сясцёр,*
*Не енчы, не кайся,*
*Трымайся за іскры, за дым, за касцёр,*
*З нябёс не спускайся.*

**Уладзімір Някляеў**
**(з паэмы «Прошча»)**

**2.** - Я лічу, што ў эміграцыю можна ехаць вучыцца, лячыцца, зарабляць грошы. Асабліва моладзі. Канешне, калі ёсць куды ехаць. Латышонак у свой час працаваў у Амерыцы грузчыкам у краме. Адзін з гарадзенскіх навукоўцаў пілаваў дрэвы. Але там быць некім вельмі цяжка. Нельга з'язджаць толькі актыўным палітыкам, вярнуцца адтуль у нашу палітыку складана.

**Сяргей Астраўцоў**, пісьменнік і журналіст:

**1.** - Стаўленне звычайнае. Не адмоўнае, не станоўчае, нармальнае.

**2.** - Канешне, мучыцца трэба тут. Але, калі адзін з'ехаў, што тут зробіш. Людзі патрэбныя і там. Палякі таксама працавалі на радзіме і ў эміграцыі.

**Алесь Белакоз**, дырэктар музея ў Гудзевічах:

**1.** - Цяжка сёння сумленнаму чалавеку ў Беларусі. Някляеў хацеў ісці на супрацоўніцтва з уладамі, па ўсім відаць. У нашай сітуацыі трэба альбо заставацца чалавекам, альбо...

**2.** - Калі чалавек адчувае, што яго забяруць, трэба ад'язджаць. Нашто гэтыя ахвяры, дыктатура не будзе вечнай. Працаваць для Беларусі можна і за мяжой.

**Сяргей Габрусевіч**, старшыня Гарадзенскай філіі Беларускага фонда культуры:

**1.** - Адмоўнае стаўленне. Мая канцэпцыя - заставацца на Беларусі і працаваць на яе.

**2.** - Такая інтэлігенцыя, як Някляеў, павінна быць тут. Гэта інтэлігенцыя высокага ўзроўню. Ад'ехаць можа настаўнік, інжынер, зарабіць грошай. Мая пазіцыя - пазіцыя Быкава. Ад Беларусі нікуды не ўцячэш.

**Алесь Сураў**, мастак:

**1.** - Я здзіўлены. Ёсць дзве версіі: нечага збаяўся, магчыма, таго, што вылезе вонкі нешта тайнае з яго супрацоўніцтва з уладамі. Альбо гэта ягоны апошні цягнік апраўдацца перад людзьмі.

**2.** - Заставацца і працаваць, але не супрацоўнічаць з уладамі. Нічога страшанга тут не адбываецца, і кожны творчы чалавек павінен працаваць на Беларусі.

**Размаўляў**
**Павал Мажэйка**

**Ад рэдакцыі.** ***Уладзімір Някляеў ужо даволі працяглы час знаходзіцца ў Варшаве. Афіцыйная пазіцыя СПБ - Някляеў знаходзіца ў адпачынку, і чуткі пра яго эміграцыю не маюць пад сабой ніякай глебы. Ніякай інфармацыі пра тое, што адбываецца вакол Някляева ў Польшчы, няма. ПАГОНЯ паспрабавала звязяцца з Някляевым па яго варшаўскім тэлефоне, аднак, нейкая жанчына адказала нам, што Уладзіміра Някляева тут няма, але пагадзілася перадаць яму нашу просьбу задаць паэту некалькі пытанняў. На жаль, па невядомых прычынах у пазнчаны час Ул. Някляеў з нашай рэдакцыяй не звязаўся. Нас вельмі здзіўляе незразумелае маўчанне, аднак мы будзем працягваць спробы выйсці на кантакт з ім.***

# Сатэлітарнае тэлебачанне

## Серада, 14

### RTL7

**07.00** «Свет пана трэнера».
**07.25** «Аўтастрада да неба».
**08.15** «Sunset Beach».
**09.00** «Выязныя замалёўкі».
**10.00** «Дзяўчына з камп'ютара».
**10.25** «Ці баішся ты цемры?».
**10.50** «Трэцяя планета ад Сонца».
**11.15** «Паліцэйскія з Маямі».
**12.10** Вечар з вампірам.
**13.15** Тэле-шопінг.
**13.50** Zoom.
**14.20** «Аўтастрада да неба».
**15.15** «Швейцарскія рабінзоны».
**15.45** Укрытая камера.
**16.10** «Выязныя замалёўкі».
**17.20** «Дзяўчына з камп'ютара».
**17.45** «Ці баішся ты цемры?».
**18.35** «Трэцяя планета ад Сонца».
**19.00** «Sunset Beach».
**19.50** 7 хвілін.
**20.00** Zoom.
**20.30** «Свет пана трэнера».
**21.00** «Успомні, хто забіў». Маст. фільм. ЗША.
**22.40** «Авіяпошта».
**23.40** «Murder Call».
**00.30** «Святы».

### POLSAT 2

**10.00** «Superboy».
**10.30** «Начны патруль».
**11.30** «Анёлы Чарлі».
**12.30** «Запал маладосці».
**13.30** «Права на каханне».
**14.00** «Таямніцы пяскоў».
**14.30** Юнiёр.
**15.00** Шок-блок.
**15.30** «Прывіды».
**16.00** Песенька па жаданню.
**17.00** «Права на каханне».
**17.30** «Таямніцы пяскоў».
**18.00** Навіны.
**18.15** Мультсерыял.
**18.40** «Брыгада А». Серыял.
**19.35** «Superboy».
**20.00** «Star Trek».
**20.50** Навіны.
**21.05** «Свет паводле Кепскіх».
**21.35** «На мяжы права».
**22.35** «Маскоўскі твіст». Камедыя. Францыя.
**00.30** «Адной нагой у небе». Камедыя.
**02.15** Прытулі мяне.

### TV POLONIA

**10.00** Навіны.
**10.10** Рэпартаж.
**10.30** «Спосабам абароны».
**11.55** Знакі часу.
**13.00** Навіны.
**13.10** Малая Айчына.
**13.40** Запрашэнне.
**14.00** «Памежжа ў агні».
**15.05** Польскія звесткі.
**15.20** Дзіцячая пр-ма.
**15.30** Панарама.
**16.00** «Толькі да ранку».
**17.00** Панарама.
**17.10** Мультсерыял.
**18.00** Тэлеэкспрэс.
**18.15** «Малая Айчына».
**18.40** «На крылах Ікара».
**19.00** «Сям'я Кандэраў». Серыял.
**20.20** Калыханка.
**20.30** Навіны.
**21.05** «Чырвоныя змеі». Маст. фільм. Польшча.
**22.35** Ірэна Сантор.
**23.30** Панарама.

### EUROSPORT

**9.30-19.30** Веласпорт.
**19.30** Мотачасопіс.
**20.30** Гонкі на трактарах. Кубак Еўропы.
**21.30** Футбол.
**23.45** Веласпорт.
**01.30** Мотачасопіс.

## Чацвер, 15

### RTL7

**07.00** «Свет пана трэнера».
**07.25** «Аўтастрада да неба».
**08.15** «Sunset Beach».
**09.00** «Выязныя замалёўкі».
**10.15** «Дзяўчына з камп'ютара».
**10.40** «Ці баішся ты цемры?».
**11.05** «Трэцяя планета ад Сонца».
**11.30** «Паліцэйскія з Маямі».
**12.20** «Авіяпошта».
**13.15** Тэле-шопінг.
**13.50** Zoom.
**14.20** «Аўтастрада да неба».
**15.15** «Швейцарскія рабінзоны».
**15.45** Укрытая камера.
**16.10** «Выязныя замалёўкі».
**17.20** «Дзяўчына з камп'ютара».
**17.45** «Ці баішся ты цемры?».
**18.35** «Трэцяя планета ад Сонца».
**19.00** «Sunset Beach».
**19.50** 7 хвілін.
**20.00** «Zoom».
**20.30** «Свет пана трэнера».
**21.00** «Кобра - спецыяльны аддзел».
**21.55** «Каманда малалетак».
**22.45** «Права і бяспраўе». Серыял.
**23.35** «Легенды ФБР».
**00.25** «Святы».

### POLSAT 2

**10.00** «Superboy».
**10.30** «На мяжы права».
**11.30** «Анёлы Чарлі».
**12.30** «Запал маладосці».
**13.30** «Права на каханне».
**14.00** «Таямніцы пяскоў».
**14.30** Музычная пр-ма.
**15.00** «Камера старт».
**15.30** «Гукавая дарожка».
**16.00** Песенька па жаданню.
**17.00** «Права на каханне».
**17.30** «Таямніцы пяскоў».
**18.00** Навіны.
**18.15** Мультсерыял.
**18.40** «Брыгада А».
**19.35** «Superboy».
**20.00** «Star Trek».
**20.50** Навіны.
**21.05** «Прышэльцы-3».
**22.00** «Брыгада А».
**22.55** «Адной нагой у небе». Камедыя.
**0.30** «Брыгада А».

### TV POLONIA

**10.00** Навіны.
**10.10** Запрашэнне.
**10.30** «Чырвоныя змеі». Маст.фільм. Польшча.
**12.00** Ірэна Сантор.
**13.00** Навіны.
**13.15** «Малая Айчына».
**13.40** «На крылах Ікара».
**14.00** «Сям'я Кандэраў».
**15.00** Запрашэнне.
**15.30** Панарама.
**16.00** Мультсерыял.
**16.30** Гістарычная пр-ма.
**17.00** Панарама.
**17.10** Мультсерыял.
**18.00** Тэлеэкспрэс.
**18.15** «Малая Айчына».
**18.40** Адзін на адзін.
**19.00** «Матрыманіяльная абвестка». Камедыя.
**20.20** Калыханка.
**20.30** Навіны.
**21.05** Тэлетэатр.
**22.15** «Заваёўнікі Карпатаў».
**22.55** MdM.
**23.30** Панарама.

### EUROSPORT

**9.30** Веласпорт.
**11.15** Футбол.
**12.45** Тэніс.
**13.15** Гольф.
**14.15-20.00** Веласпорт.
**20.00** Мотачасопіс.
**21.00** Лёгкая атлетыка.
**22.00** Веласпорт.
**00.00** Бокс.
**01.00** Мотаспорт.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні.
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3 015 Наклад 4 497
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 12.07.1999 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: *Таццяна Лучыц*
Камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*